**Віктар РЭЧЫЦ**

# Конь і Конік

*Байка*

Па лузе вёз
Конь сена воз.
Спыніўся, каб вады напіцца.
Туды тым часам па травіцы
Зялёны Конік прыскакаў,
Загаварыў да Жарабка:
— Цягаеш грузы — дужы, значыць?
Я згодны, гэта кожны бачыць.
Але заўважыць неабходна:
Ты здольны шмат рабіць таму,
Што на табе сядзіць хамут.
Хай знімуць з шыі — ты, мой родны,
І з месца плуг, воз не скранеш.
Калі б хамут быў у мяне,
Вазіў бы штосьці і я тады.
Адказ даў Коніку гняды:
— Хамут заўсёды на Кані,
Каб мог ён сілу прымяніць.
Ты падабенства не шукай — адно
У нашых назвах існуе яно.
Павінен ты нарэшце зразумець:
Каб сілу паказаць, яе патрэбна мець.

*г. Івацэвічы.*




Малюнак Алега ГУЦОЛА.



Малюнак Юрыя МІХАЙЛАВА.




Калі вам вяртаюць кнігу, якую ўзялі пачытаць, значыць, яна нецікавая.

Без самага маленькага болціка не зможа бездакорна працаваць нават самы вялікі апарат.

Усё арыгінальнае традыцыйна ў сваёй арыгінальнасці.

Кошт і цана — розныя паняцці. Кошт рэчы ведае кожны, а вось цана, якой яна дасталася, вядома не кожнаму.

Рыдлёўка — прылада, якой не патрабуецца шмат мадэляў, удасканаленых і інавацыйных.

Калі вы не можаце адчыніць дзверы, магчыма, гэта не дзверы.

Калі ты ўвесь дзень толькі думаеш пра работу, але не працуеш — гэта не работа.

Лішак грошай, як правіла, нараджае дэфіцыт шчасця.

Колькі б вы ні павялічвалі штат, кожны работнік будзе забяспечаны работай. І колькі б вы ні памяншалі штат, работа будзе выконвацца.

Калі не хочаш нешта рабіць — ты знойдзеш прычыны. Калі захочаш нешта зрабіць — прычыны знойдуць цябе.

**Дунька ШЫП,**
*г. Мінск.*




## У пошуку



***Аршанскі раён.*** Усе чулі пра карысныя ўласцівасці кавы. Гэта найлепшы напой для працаголікаў.

Магчыма, менавіта для такіх людзей прызначалася партыя кантрабанднай кавы, якую затрымалі аршанскія міліцыянеры. Кошт тавару, што перавозіў на грузавым аўтамабілі супрацоўнік адной прыватнай фірмы, склаў больш за 190 мільёнаў рублёў.

Цяпер працаголікам давядзецца шукаць іншы напой, а фірмачам — апраўданні, адкуль і куды ехала кантрабандная кава.

## Чужыя сані

***Жлобінскі раён.*** Дырэктару КСУП «Краснобережский» надакучыла слухаць прымаўку «Рыхтуй сані летам, а колы — зімой» і ён махнуў на яе рукой. А калі настаў час збору ўраджаю, то вырашыў




злёгку «падправіць» справаздачныя дакументы.

Праверка хутка выявіла гэтыя «папраўкі». Так, замест заяўленых адзінаццаці рабочых камбайнаў працавалі толькі сем, запасаў паліва не хапіла б нават на адзін дзень працы, а сушыць зерне і захоўваць не было дзе.

У выніку дырэктар КСУП «Краснобережский» страціў сваю пасаду. І, відаць, паверыў прыказцы «Не ў свае сані не садзіся».

## Любіш катацца…

***Гродна.*** Мабыць, у дзяцінстве адзін мясцовы прадпрымальнік вельмі любіў катацца, а вось цягаць санкі — не зусім. З узростам амаль нічога не змянілася.

Таму свой бізнес па продажы замежных аўтамабіляў ён будаваў па прынцыпе «Люблю прадаваць,

**Таццяна ДЗЕМІДОВІЧ**

# УСЮДЫ ПАСПЕЦЬ…

*Іранеска*



Маруся круціцца каля турніка спартыўнага комплексу, як заведзеная малпачка. Яркая спаднічка ветразем надзімаецца, і кучаравыя рыжыя коскі з яркімі заколкамі на кончыках, быццам змейкі, лётаюць туды-сюды.

— Я, цёця Таня, два разы ў тыдзень хаджу на плаванне, тры разы — на англійскую мову, а яшчэ на хор, на танцы і ў мастацкую школу. Гурток юных пажарнікаў наведваю па нядзелях, факультатыў па матэматыцы — па суботах, у школьным музеі экскурсіі праводжу па аўторках, у цяпліцы пры Доме піянераў працую па чацвяргах. Раз у месяц сама выпускаю школьную насценгазету. А яшчэ я староста ў класе, чэмпіён школы па зборы макулатуры і пераможца конкурсу абласной дзіцячай бібліятэкі на самы «тоўсты» фармуляр!

— І як жа ты, Маруся, усюды паспяваеш? — здзіўляюся я.

— Гэта цяжка, цёця Таня! Але мама кажа — трэба ўсюды паспець. Зараз цяжка, затое потым лягчэй стане... Бо я ўсё буду ўмець, а гэта значыць, змагу знайсці самую лепшую працу, — прыклаўшы далонь да вуснаў, шэптам па сакрэце паведаміла Маруся. — У мяне і сястра старэйшая такая ж здольная была ў дзяцінстве. Наведвала секцыю па плаванні, хадзіла ў музычную школу і на акрабатыку, вышывала крыжыкам, навучылася нават жангліраваць, магла пятнаццаць хвілін стаяць на галаве і чытала з хуткасцю трыста пяцьдзясят слоў у хвіліну, вучыла японскую мову і скончыла курсы бармэнаў, — загінала адзін за другім свае пальцы Маруся.

— Няўжо? — перапыніла я хвальбу дзяўчынкі. — І чым зараз твая сястра займаецца? Мабыць, ужо як мінімум прафесар ці касманаўт?

— Ну што вы, цёця Таня, хіба не ведаеце? — абурылася Маруся. — Наша Надзея, дзякуй богу, нарэшце выйшла замуж і ўжо тры гады як хатняя гаспадыня!..

*г. Брэст.*

а падатакі няхай іншыя плацяць». У рахунках-даведках прадпрымальнік указваў заніжаны кошт машын, якія прадаваў — і прыбытак тым самым таксама заніжаўся. Такім чынам за два гады ён не заплаціў больш за 512 мільёнаў рублёў падаткаў.




Зараз вядзецца следства, якое дапаможа жыхару Гродна пераасэнсаваць сваё памылковае бачанне свету.

***Па матэрыялах прэс-цэнтра Камітэта дзяржаўнага кантролю Рэспублікі Беларусь.***




Малюнак Аляксандра КАРШАКЕВІЧА.

*Вельмі шкада, што здольнасць дзяліцца засталася толькі ў прасцейшых.*

*Уладзімір Калечыцкі (расійскі журналіст, літаратар)*



Малюнак Аркадзя ГУРСКАГА.

*Самае дарагое ў чалавека — гэта жыццё! Не верыце — паглядзіце на цэны.*

*Анатоль Рас (расійскі літаратар)*

**Лёля БАГДАНОВІЧ**




Максім пытаецца ў суседа:
— Ну як, ці будзе ураджай?
А што вунь пад нагамі гэта:
Няўжо то бульба, прабачай?

— Штосьці не шанцуе ў гэтым годзе,
Паелі бульбу ўсю жукі.
Капаць затое менеі будзе —
Вось вынік клопату які.

— Ну, а ў мяне, — ўздыхнуў Максім, —
Паелі й каліўе зусім!
Не трэба нават і касіць.
Ды толькі што у склеп насіць?..

*г. Барысаў.*

# СТАРОЕ НА НОВЫ ЛАД

• Колькі вяровачцы ні віцца, а канцы ў яе ўсё роўна два.

• Калі пасадзілі ў печ — дарэмна крычаць, што ты не гаршчок.



• Калі не злавіў і аднаго зайца, кажы ўсім, што гнаўся за двума.

• Яблынька ад яблыка недалёка вырасце.

• Хутка знойдзе сто сяброў той, хто мае сто рублёў.




• Што пажнеш, тое і пасееш.

• Мышы з дому — кошка ў склеп.

• Калі прымусілі вазіць саначкі, паспрабуй хаця б аднойчы ў іх пракаціцца.

• У такое надвор'е добры сабака гаспадара на вуліцу не выцягне.



• Няварта марнаваць час, прышываючы да савана кішэні.

**Сяргей ЛАПЦЁНАК,**
*г. Мінск.*



# Не «Жартачкі»!

*Нядаўна ў сталічным выдавецтве «Медисонт» пабачыў свет новы зборнік вершаваных карацелек вядомага паэта-гумарыста Міхася Мірановіча пад назваю «Жартачкі». (Гэта першая кніжка, усяго іх плануецца тры.) Кніга гумарыстычных і сатырычных мініяцюр складаецца з дзесяці тэматычных раздзелаў і трапна высмейвае заганы сённяшняга жыцця. Калі, напрыклад, «...Сталі пiць/ Гарэліцу кабеты, / Мужыкі/ Пайшлі па мужыках...», «...Ён раней/ Хінуўся да дзяўчат, / Зараз жа, як вып'е, –/ Больш да плота», «...Нецікавых жанчын/ Не бывае –/ Проста шмат/ Нецікаўных мужчын», «...Колькі трэба/ Нарабіць памылак,/ Каб яны змаглі/ Нас навучыць?..» А гэта, як кажуць, не жартачкі!..*

*Віншуем Міхаіла Канстанцінавіча, даўняга сябра «Вожыка» і лаўрэата прэміі імя Кандрата Крапівы, з выхадам новай кнігі і чакаем працягу «трылогіі». А пакуль – чытаем і ўсміхаемся з яго новых дасціпных міранізмаў!*




## Міхась МІРАНОВІЧ

### Антаганізм




Антаганізм узнік
Душы і цела:
У гэтыя
Кастрычніцкія дні
Душа за птушкамі б
У вырай паляцела,
А арганізм –
Баіцца вышыні...

### Блізкая мара



Як быў маладым я –
Дык меў тады мары:
Паехаць у Рым, у Парыж,
На Канары...
Сталею –
І мара больш блізкаю стала:
Я мару паехаць
У вёску па сала!..

### Бабы і маладзіцы




Калі жанчына
Маладзіца –
Яна завецца
Маладзіца.
Калі ж выходзіць гэта
Слаба –
Тады яна
Завецца баба.

### Балельшчык



Хадзіў на бокс,
Хаця пры гэтым
Не разумеў,
Што да чаго,
Прыемнай думкаю
Сагрэты,
Што іншых б'юць –
А не яго!..

### Сюжэт для анекдота

– Для анекдота добрага
Сюжэт... –
Казаў матрос
Курсанту-аднагодку. –
Пайшоў на флот я,
Каб пабачыць свет,
Мяне ж служыць паслалі
На падлодку!..

### Драма з грыбамі



Сусед з суседкай
Па грыбы
Пайшлі за рэчку
Пад дубы.
...Прыйшла суседка
Без грыбоў,
Сусед – за ёю –
Без зубоў...



### Невясёлы час

Восень.
Час невясёлы такі.
Невясёлага кшталту
Падзеі:
Адляцелі у вырай
Шпакі,
Адлятаюць кудысьці
Надзеі...

### Завяў рамонак

Стаіць
Трапічная спякота –
Ссох казялец,
Завяў рамонак...
Да дзевак нават
Неахвота –
Што ўжо казаць
Пра ўласных жонак?!





# Чаго баяцца дамавікі

ФЕЛЬЕТОН

Жылі ў адным горадзе N. у суседніх пяціпавярховых дамах два дамавікі – Кузя і Нафаня. Знаёмыя яны былі амаль сто гадоў, вучыліся некалі разам ва УМІ (Універсітэце міфічных істот) па спецыяльнасці «Дамавік. Вядзенне гаспадаркі». А пасля размеркавання пачалі працаваць па суседстве.

Кожную раніцу Кузя і Нафаня забягалі адзін да аднаго ў госці. Абмяркоўвалі апошнія навіны ў дамах, раіліся, як пакараць гаспадароў кватэр, якія парушалі цішыню, дэбашырылі або кідалі смецце ў пад'ездзе.

Але аднойчы Кузя затрымаўся са штодзённым візітам да свайго сябра. Прачакаўшы цэлую гадзіну, Нафаня сам пайшоў да яго, каб даведацца, што здарылася.

– Чаго ты тут сядзіш? Сёння ж твая чарга ў госці прыходзіць. Ганяе старога хворага дамавіка па лесвіцы, зусім сумленне страціў! – пачаў абурацца Нафаня, ледзь пераступіў парог кватэры свайго сябра.

– А? Што здарылася? Колькі зараз часу? – спахапіўся той, быццам яго толькі што пабудзілі.

– Вядома, здарылася! Ты гадзіну назад павінен быў да мяне прыйсці, а сядзіш дома. Ды яшчэ з такім выглядам, нібы цябе не пыльным мяшком стукнулі, а мяшком з цаглінамі! Чаго задумаўся? – Нафаня не прапусціў магчымасці пакпіць з сябра.

– Ты апошнія навіны чуў? – загадкава спытаў сябар.

– Ты маеш на ўвазе гісторыю пра дамавіка Лапавухага з сорак пятага дома? Дык па справядлівасці яго звольнілі, нечага было свой пад'езд даводзіць да такога стану. Усе сцены спісаныя, смецце паўсюль валяецца, смурод... Не так працуюць сумленныя дамавікі! – разышоўся Нафаня.

– Супакойся! У гэтым доме ўжо іншы дамавік працуе і пакрыху даводзіць гаспадарку да ладу... У мяне навіна іншая, больш сур'ёзная. Сярод дамавікоў – вялікія хваляванні! – сказаў Кузя.

– Няўжо? З якой нагоды? – здзівіўся сябар.

– Усё з-за даўгабудаў, – уздыхнуў Кузя. – Ты ж памятаеш, як у нас пасля ўніверсітэта было: пачынаецца будоўля дома – і адразу на гэта месца прызначаецца дамавік. А цяпер некаторым нашым сабратам даводзіцца лазіць па будаўнічых рыштаваннях ні год і ні два, а тры, пяць, і, часам, усе дзесяць гадоў...

Кузя дастаў са стала нейкія паперы, перабраў іх і патлумачыў:

– Мая пляменніца, якая вучыцца ва УМІ, піша дыпломную працу пад назвай «Праблема даўгабудаў у Беларусі». Валодае ўсёй неабходнай інфармацыяй па гэтай тэме. Дык вось, сёння па колькасці даўгабудаў лідзіруе Мінская вобласць – 90 аб'ектаў, у Гомельскай і Віцебскай абласцях іх налічваецца па 35, у Брэсцкай – 29, у Магілёўскай – 20 і ў Гродзенскай – усяго 10.

– Гэта атрымліваецца, што без працы цяпер сядзяць больш чым дзвесце дамавікоў? – абурыўся Нафаня. – А калі ўлічыць, што ў шматпавярховыя дамы прызначаецца не адзін наш сабрат, а некалькі, то колькасць «беспрацоўных» можа наблізіцца да пяці сотняў!

– А я табе пра што кажу! Мы ж марнеем без дамоў, без працы... Наша прызначэнне – сачыць за парадкам на тэрыторыі, якую нам даверылі, – падтрымаў яго калега.

– Ох, быў бы я ростам крышку вышэйшы і было б на каго пакінуць сваю гаспадарку, дык забег бы ў госці да начальнікаў вось такіх вось даўгабудаў! Навёў бы там парадкі! Наладзіў сустрэчу з дамавіком! – замахаў рукамі Нафаня, злёгку сапучы ад злосці.

– Сядзі ты, і без цябе пакуль спраўляюцца! – асадзіў яго сябар. – Напрыклад, не без дапамогі АБД (Асацыяцыі беларускіх дамавікоў) летась была ўзбуджана крымінальная справа на былога дырэктара УКБ Савецкага раёна г. Мінска. Амаль пяць гадоў людзі чакаюць (і дамавікі таксама), калі ж можна будзе засяліцца ў новы 20-ціпавярховы дом на 120 кватэр на Лагойскім тракце, 21. Зараз гэты даўгабуд курыруе сам кіраўнік КДК. У лістападзе 2013 года дом плануюць дабудаваць.

– Ого, нашы хлопцы здорава працуюць! Праўда, сакрэтна: няма чаго людзям ведаць аб нашым існаванні. Але супрацоўнікам Камітэта дзяржкантролю дапамагаюць спраўна. Я яшчэ летась чытаў пра даўгабуд у Браславе, які павінны былі здаць у лютым 2012 года. Дык як толькі віцебскі КДК узяў гэты дом пад свой кантроль, будоўля пайшла, аж кельні замільгалі. І ў канцы чэрвеня гэтага года жыхары засяліліся, а наш сабрат пачаў працаваць, – супакоіўшыся, сказаў Нафаня.

– Яшчэ мне ўчора патэлефанаваў брат з Гродзенскай вобласці. Казаў, што ў іх там таксама дамавікі на месцы не сядзяць, робяць усё магчымае, каб людзі як мага хутчэй атрымалі свае кватэры. І гэта дае свой плён. Да канца 2013 года пяць даўгабудаў павінны адкрыць свае дзверы для новых жыхароў, – успомніў Кузя.

– А што, калі колькасць даўгабудаў будзе павялічвацца? Дзе будуць працаваць дамавікі? Гэтак жа наша племя наогул прапасці можа! Хто ж будзе людзям дапамагаць? – зноў залямантаваў Нафаня.

– Хопіць тут румзаць! Справы наладжваюцца. А ад твайго крыку толку, як з казла малака, – пачаў супакойваць Кузя свайго сябра.

– І праўда, чаго гэта я? Пайду лепш дадому, а то раптам Колька з першага паверха зноў пачне сцены размалёўваць, – схамянуўся Нафаня.

– І сапраўды! Пабягу і я рабіць свой абход, – сказаў Кузя, і дамавікі ўзяліся за сваю непрыкметную, але вельмі патрэбную работу.

**Размову дамавікоў падслухала Наталля КУЛЬГАВАЯ.**

## КАБ І ХАЦЕЎ — НЕ ПРЫДУМАЕШ

«Брокеры, дылеры і маклеры! Павышайце лізінг нашага рэйтынгу, які індэксуе дэпазіторый дэфляцыйнага дывідэнду, нягледзячы на клірынгавыя парытэтныя канвертацыі маркетынгу!»

*(З рэзалюцыі навуковай канферэнцыі.)*

**Даслаў В. ФЕДАРАКА. «***Вожык», № 2, 1999 г.*




Малюнак Пятра КОЗІЧА. *«Вожык», № 7, 1987 г.*

**Валянціна ДОЎНАР**

# Назіранкі

## Такі ўжо быў

У тралейбусе п'яны дзяцюк лезе з размовамі — то да аднаго, то да другога і спыняецца, нарэшце, на дзіцяці. Пытае ў малечы, як завуць, колькі гадоў, з кім жыве. Дзяўчо паслухмяна адказвае: «Даша...», «Чатыры...», «З мамай...»

— А таткі няма? — цікавіцца дзяцюк.

— Не-а, — круціць галавой дзяўчынка.

— Дык, можа, я ім пабуду? — хітра падміргвае той.

Малая ўздымае вочы на маці, потым — на «кандыдата» ў бацькі і моршчыць маленькі нос:

— Не-а... Не трэба.... У нас такі ўжо быў.



## Лепш хай пуза лопне...

Выпісваць з бальніцы Марка збіраліся ў пятніцу. А напярэдадні, у чацвер, да яго калегі прыйшлі. Пірог з капустай прынеслі, гародніны рознай, сокаў...

Раздаць гэту смакату — ды «абыкаму», «сябрам» па палаце — хворы не мог, валачы «на перакладных» дадому — таксама. І ў бальніцы ж не кінеш, бо дрэнная прыкмета: вярнуцца можна.

Таму — за вечар, за ноч усё, што прынеслі, ён паціхеньку... з'еў.

Раніцай — ледзь адкачалі.

## Ад любові да...

Каля метро дзве кабеціны гандлююць кветкамі. Ну, як гандлююць... Прапануюць іх рэдкім прахожым, ледзь не крыкма крычаць: «Купі!» Як на грэх, аніхто не чуе. Тады...

— Муж-чы-начка, — пяюць яны на два галасы п'янаму прахожаму, — паглядзі: прыгажосць якая! Жонцы купі... Ты ж дадому ідзеш, так?




— Ну, — «тармозіць» мужчына, глядзіць, як баран, на іхнія кветкі і потым, хістаючыся, марудна выварочвае кішэні: маўляў, я купіў бы, ды, бачыце ж, грошай няма...

Настрой у цётак рэзка мяняецца:

— Ну, то ідзі адсюль! — пасылаюць яны. І ўжо ўслед: — П'янтос пракляты! Кветкі ён купіць. Каму? Якая баба з ім ужывецца?.. Была ў сабакі хата... І сям'я. Во ў такога!..

Заўважылі: хвілінкі не прайшло, як быў «муж-чы-начка»?

## Аджартаваўся

Раніца. Прахадная. Каля яе здзіўленым: «Ой... А ў вас жа спіна белая!» першага красавіка спынілі дырэктара. Той — хітры, скеміў: сказаў, што такія ж (у сэнсе белыя) у яго і рукі, і ногі, і жывот... Бо рана ж яшчэ, не распранаўся, не загараў. Потым задаволены (не дурны ж, аджартаваўся!) ён зайшоў у кабінет, скінуў куртку. І ўбачыў, што спіна ў ёй сапраўды... запэцканая пабелкай.

Пакуль адціраў, думаў: ну, навошта было вахцёру, механіку расказваць пра ўласныя ногі? А пра жывот?..

Розум прыбудзе, ды не да часу будзе.

## Каб зразумець...

«Людзі — як трэскі... У плыні», — гэта пра нас, пасажыраў метро: рэчкай жывой мы «плывём» з-пад зямлі, рэчкай туды «заплываем»... Але — па адным. Для гэтага там турнікет стаіць: прыстасаванне такое ў выглядзе рухомай крыжавіны. Аплаціў праезд — праходзь...

Мужчына перада мной заплаціць забыўся, і крыжавіна гэта як выскачыць (на ўзроўні жывата), як грукне... Мат, здаецца, грымнуў мацней! Я тады яшчэ падумала, што мужчыны — усё-ткі слабы пол. Моцны б так не распускаўся: эмоцыі трэба стрымліваць.

Трэцяга дня ў пастку (такую ж!) уляцела сама: галоўнае — праезд аплаціла, а крыжавіна тая... Не, я не мацюкалася. Але мужчыну — зразумела. І... апраўдала.

## Шчасце

Дрэнны выдаўся дзень. Не, нават не дрэнны. Няўдалы, пусты, бессэнсоўны...

Усяго і плёну з яго, што, ідучы дадому, раптам падумала: шчасце — калі ёсць каму расказаць, як дрэнна склаўся твой дзень.



*Працяг на стар. 8.*

*Тэлефонныя размовы таму такія простыя і сяброўскія, што суразмоўцы не бачаць адзін аднаго.*

Леапольд Новак
(аўстрыйскі музыказнаўца)

Працяг. Пачатак на стар. 7.

## Проста

Сяброўка падбівае асвоіць камп'ютар, нават шэфства бярэ. Кажа, што журналісту гэта во як патрэбна (хто б спрачаўся? – В. Д.), што атрымаецца ў мяне, бо ўсё проста.

Я з гэтай нагоды ўспамінаю: а) прыказку: «Старога вучыць – што мёртвага лячыць», б) прыгоды даўняга знаёмца. Ён, трапіўшы ў Варшаву, дарогу ў мясцовых пытаў. Чуў папольску: «То пан пойдзе проста» – і аж шалеў: «Гэта вам тут проста! А мне куды ісці?»

...Яму «папрасцела» потым, калі зразумеў, што проста – гэта значыць прама.

## Ёсць пытанне!

Шаша забіта: у пятніцу ці не палова Мінска едзе на дачы, у нядзелю – назад з... «праклятых гародаў». Зрэшты, зараз гарбацяцца на іх не ўсе. Некаторыя – дамкі ўзвялі, газоны пасеялі і ездзяць туды палякаць...

Што цікава, гадоў дзесяць назад на нашай вулачцы адна такая сямейка была, зараз – чатыры. Паразумнелі мы, значыць? Пабагацелі? Ці проста гультаёў стала больш?

Ёсць, як кажуць, пытанне!



## Самец?

Паўлу – сем, і ў вёсцы ён быў толькі двойчы. Першы раз – у тры месяцы (хрысцілі ў маленькай царкаўцы), другі – у тры гады (да сваякоў ездзіў з бацькамі бульбу садзіць). Тады ж упершыню ўбачыў жывых курыцу і свінню...

Цяпер – зноў пашанцавала. З прыватнага сектара да школкі карова прыйшла – вялікая, рагатая, рабая і...

– Я думаю, – усур'ёз заўважыў малы, – што гэта самец.

...Маці не пыталася, чаму ён так думае.



## Прадаецца... усмешка

Зялёную клетачку двара з усіх бакоў абляглі машыны. Аўтобусу – маленькаму, чырвонаму – і месца няма: ледзь не каля пад'езда стаіць. І... раздорвае ўсім усмешкі. На правым баку – невялікі надпіс: «Машыну ахоўвае клоп-сніданосец», па левым – «Ляпнеш дзвярыма – памрэш ад манціроўкі».

У дадатак да гэтых нядаўна яшчэ адзін надпіс з'явіўся. І зусім не смешны: «Мяняю на грошы!»

Прадаецца, значыць, аўтобус... Цікава: з даплатай за клапа ці без?

## Доктар

...У палаце нас пяцёра. І ледзь не ўсе цяжкія. Штораніцы чакаем доктара. Каб пажаліцца, распытаць і (чаго тут грахі ўтойваць) проста ўбачыць. Бо ён – дужы, здаровы і нейкі заразна ўпэўнены, што ўсё (і ва ўсіх!) будзе добра. Ні слова ад яго пра дэфіцыт лекаў, нізкія заробкі, зношаныя прасціны. Праблем – быццам няма! Ніякіх (ці яны яго не датычацца?).

Пасля выпіскі не стрывала, зайшла падзякаваць і заадно спытаць: «Чаму?»

А ён здзіўленне маё не прыняў.

«Уявіце, – сказаў, – вы хворыя, вам дрэнна. А тут яшчэ я са сваімі болькамі. Вы ж тады па месяцу ў бальніцы валяцца будзеце. А так – тыдзень–другі і, глядзіш, на волі».

...Праўду людзі кажуць: калі ты пагаварыў з доктарам і лягчэй не стала – значыць, гэта быў не доктар.






Малюнак Пятра КОЗІЧА.








Мае прывітанні, дружа Вожык!

Многія гаспадыні мяне падтрымаюць, што верасень – час, калі закатачная машынка працуе амаль без перапынку. Але звычайнымі салёнымі агуркамі нікога зараз не здзівіш, вось і даводзіцца шукаць нешта новае.

Падчас такіх пошукаў мне на вочы трапіў гэты фотаздымак. Вырашыла і я зрабіць такую ж «сям'ю». І не пашкадавала. Па-першае, «закатка» атрымалася вельмі арыгінальнай, а па-другое, любы злодзей, убачыўшы яе, знямее ад страху. Бо нават мой муж, які перанасіў у склеп ці не сотню слоікаў, зірнуўшы на гэту «сям'ю», не на жарты палохаецца. Рэкамендую ўсім гаспадыням зрабіць такую «сігналізацыю»!

**Марына ПЯТРОВА,**
*г. Слуцк.*












Малюнкі Алега ПАПОВА.

# Вось такая Надзея

Асцярожна Прахіндзеі!







































Комікс Аляксандра КАРШАКЕВІЧА, тэма Васіля ФЕРАНЦА.




Пчала – гэта такая аса, як камар, толькі муха.



Малюнак Алега ГУЦОЛА.



– Люся, які ў цябе бляск для вуснаў класны!
– Ды гэта я бліны ела...



Малюнак Алега КАРПОВІЧА.



У рыбалоўным магазіне:
– Дайце мне дзесяць чарвякоў і актывуйце іх!

Разумнага церпяць да таго часу, пакуль ён не перашкаджае. Дурнога – пакуль не дапамагае.



«Забіўшы» ў свой навігатар слова «аўтазавод», жыхар Ніжняга Ноўгарада прыехаў на завод BMW у Мюнхен.



## А я – кружочкам!

*З жыцця важатага*

Працаваў летам на практыцы ў дзіцячым аздараўленчым лагеры. Каб падтрымліваць парадак, прыдумаў такую «фішку»: калі хто-небудзь з дзяцей не слухаўся, ставіў у блакноціку насупраць прозвішча парушальніка крыжык. Нікуды «наверх» гэтыя запісы не паказваў, але крыжык маляваўся з вельмі шматзначным выглядам. Спрацоўвала на ўсе сто!

Аднойчы трэба было дапамагчы прыбраць у пакоі. «Дзяжурны» хлопчык катэгарычна адмовіўся працаваць. Я дастаў блакнот і дэманстратыўна пачаў перагортваць старонкі. Хлопчык, горда ўзяўшы рукі ў бокі, гучна заявіў:

– А мне ўсё роўна, што крыжыкі! Хоць тысячу стаўце!

– Усё роўна? – перапытаў я. – Ну, тады стаўлю крыжык і – абводжу яго кружочкам!

Усе дзеці знямелі ад страху. А хлопчык заплакаў у тры ручаі і схапіў у рукі анучку...




**Пачуў і намаляваў Павел ГАРАДЦОЎ.**

Калі выкладчык ставіць студэнту «здавальняюча» пасля дзясятай пераздачы, значыць, студэнт яго не задаволіў, а замучыў.




Малюнак Юрыя МІХАЙЛАВА.



На экзамене ў інстытуце фізкультуры:

– Так, давайце залікоўку, цягніце канат!




Малюнак Уладзіміра ЧУГЛАЗАВА.

У інтэрнаце:

– Я гляджу, вы тут жыруеце. Ікра на стале.

– Дык жа баклажанная!

– Дык жа вядро!





Позняя ноч. Мужчына спускаецца да суседзяў знізу:

– Сцішце, калі ласка, музыку. Немагчыма заснуць.

– Мы весялімся і не збіраемся нічога сцішваць!

– Як гэта разумець?

– Ды як хочаце, так і разумейце.

– Добра, я разумею гэта як тое, што вы заказалі сабе патоп.



Ён проста прапанаваў ёй кавы, а ўбачыў у яе вачах секс, ЗАГС, дваіх дзяцей, іпатэку, траіх унукаў і шклянку вады.




Малюнак Алега ГУЦОЛА.



Малюнак Аркадзя ГУРСКАГА.




Малюнак Пятра КОЗІЧА.

# Прыпеўкі

Пайду паскачу —
Не шкадую ножак,
А спаць захачу —
Павалюся ў ложак.

* * *

Жонка сеяла гарох —
Вырасла радыска.
Не жанчына, далібог, —
Ілюзіяністка!

* * *

У Анюты наградзе
Ўся капуста ў лебядзе.
Мабыць, ёй да густу
Лебяда з капустай.

* * *

Пакусалі мошкі ножкі —
Спадабаліся, відаць.
Я пачухаю іх трошкі
Ды ізноў пайду скакаць!

**Спявала Лёля БАГДАНОВІЧ,**
*г. Барысаў.*

Скача весела кума,
Хоць п'яная ў «сцельку»:
«Я баюся спаць адна,
Кум, хадзі ў пасцельку!»

**Падслухаў Расціслаў БЕНЗЯРУК,**
*г. Жабінка.*



У мяне наконт фігуры,
Дзякуй богу, ўсё ў ажуры.
Я бабуля — прыгажосць,
І ў запасе порах ёсць!

* * *

Дзеўкі, нібы вараннё,
Шабутныя, ё-маё!
Толькі хлопцу падміргнуць,
Ў ЗАГС адразу валакуць.

* * *

Ох, і любіць наша Верка
З лысым дзедам пагудзець.
Ёй цяпер замест люстэрка
Можна ў лысіну глядзець.

* * *

Песня ўсім настрой стварае,
З ёю добра марыцца.
А хто песень не спявае,
Той, як грыб, састарыцца!

**З вуснаў Людмілы ЮШЫНАЙ,**
*г. Гомель.*

Працаваў Іван заўзята,
Ды сустрэўся раз з Кандратам.
Што за месяц зарабіў —
За адзін дзянёк прапіў.

**Праспяваў Віктар САЛАНЕЦ,**
*г. Любань.*

# Навіны з МУС: матай на вус...

## СІНДРОМ ЯНУЧКА, ЦІ КАЛІ ПЛАЧА КОТ

*Міні-фельетон*

Рэвалюцыйнае адкрыццё было зроблена нядаўна ў галіне крыміналістыкі! Выяўлены сіндром непераборлівага злодзея пад назваю «Што пад руку трапіла», ці «Кот наплакаў», ці «Сіндром Янучка». Вучоныя пакуль не змаглі спыніцца на нейкай пэўнай назве. Затое дакладна выявілі іншае. Сіндром заключаецца ў тым, што дробны злодзей, як правіла, здзяйсняе дробны крадзеж. З цягам часу ўзнікае верагоднасць прагрэсу і перарастання крадзяжу ў больш буйныя памеры. Але, як сведчыць практыка, сіндром носіць устойлівы дробязны характар і не развіваецца з-за шэрагу суб'ектыўных прычын. На гэты конт у народзе справядліва зазначана наступнае: «І падрос, і вырас Янучок, а Янкам не стаў»...

Выпадкі, у якіх дзейнічаюць злодзеі з сіндромам Янучка, засведчаны па ўсёй краіне. Напрыклад, у Пінску невядомы ўкраў з недабудаванага дома па вуліцы Брэсцкай зварачны апарат, 250 метраў электраправодкі і — дзіцячую машынку. Відаць, развітанне з дзяцінствам у злодзея зацягнулася... Другі хапуга сцягнуў у Камянцы з пляцоўкі летняга кафэ філіяла «Розніцаторг» Камянецкага райспажыўтаварыства па вуліцы Брэсцкай піва і кандытарскія вырабы. Таксама, мабыць, настальгіруе па мінулым дзяцінстве, ці не даеў у юным узросце пірожных. Матывы свайго злачынства затрыманы (у свае 19 гадоў быў ужо асуджаны за хуліганства) тлумачыць цяпер міліцыянерам... Трэці злодзей зайшоў у Маладзечне ў магазін «Лімпапо» і спакусіўся на ролікавыя канькі і цацкі... Тэндэнцыя дзіўных «дзіцячых» матываў, як кажуць, прасочваецца.

Праўда, ёсць і іншыя факты, калі янучкі цягнуць з чужых дач веласіпед, электрабрытву, ежу і іншы няхітры скарб (Мінскі раён, вёска Каменная Горка), а з кафэ — скрынку для ахвяраванняў на карысць храма (Шумілінскі раён). У апошнім выпадку сімптомы, відаць, адступілі і 24-гадовы злодзей, які нідзе не працуе, застаўся ні з чым. Хаця, не: ён «атрымаў» крымінальную справу.



На жаль, крыміналісты не кажуць, ці магчыма перамагчы гэты сіндром. Пакуль стопрацэнтнай гарантыі не дае нават самае суровае пакаранне. Што ж, бяда, калі галава не хоча думаць пра тое, што робяць рукі. Ад такога нават кот здольны заплакаць.

**Наталля КУЛЬГАВАЯ.**

***Па матэрыялах Упраўлення інфармацыі і грамадскіх сувязей Міністэрства ўнутраных спраў.***




Малюнак Аркадзя ГУРСКАГА.




Малюнак Юрыя МІХАЙЛАВА.

## ЗВЫШНАЗІРАЛЬНАСЦЬ



Жонка мужу кажа грозна:
– Не адводзь у бок вачэй!
Дзе ты ўчора быў так позна,
Прызнавайся мне хутчэй!
Хоць няма слядоў памады
На манжэтах, каўнярах
І духамі – гэта праўда –
Ты чужымі не прапах,
Але ж я табе не ку́ра:
У «мерсе» ты каго катаў?
Пад чыю, скажы, фігуру
Крэсла адрэгуляваў?!

**Святлана БЫКАВА,**
*г. Заслаўе.*




Малюнак Пятра КОЗІЧА.




Малюнак Міколы ГІРГЕЛЯ.

## Вясёлы слоўнік

Салон – аматар сала.

Самацёк – час.

Стрыжань – цырульнік.

Спадчына – страта пасады.

Стопка – пешаходны пераход.

Трапаць – садзіцца ў самалёт.

Трыбунал – лектар.

Трыбух – трыо барабаншчыкаў.

Хахаль – весялун.

Цягнік – злодзей.

Чыннік – кар'ерыст.

Шыбаваць – шкліць вокны.

Ялавец – рыбак-хвалько.

Ярома – сталіца Італіі.

**Заўважыў Міхась ДУБОВІК,**
*Бярэзінскі раён,*
*в. Арэшкавічы.*







# Спагадлівыя дзікі

*З натуры*

«О-хо-хо! — уздыхнула баба Ульяна. — Вось і світаць пачынае, а я так і праляжала ўсю ноч з расплюшчанымі вачыма. Усё думкі ды ўспаміны...» Цяжка дажываць свой век. Сын у горадзе, кліча да сябе жыць. Але ж лепш не будзе, чым у сваёй хаце, бо памятае баба Ульяна, як летась гасцявала ў сына. Нявестка нядрэнная, чаго грашыць Богу, але.... То не там паставіла кубак, то не так прысунула фіранку на акне, то гучна размаўляе, аж суседзі чуюць...

Першы прамень сонца зазірнуў у акно, затанцаваў па падлозе. Скочыў на падушку і паказытаў старой твар, нібы хацеў падарыць добры настрой і прыдаць сілы. А яны ёй ох як спатрэбяцца.

Вясной, калі прыязджаў на адзін дзянёк, сын ускапаў агарод. Баба Ульяна пасадзіла тады па некалькі радкоў і морквы, і цыбулі, і бурачкоў. А яшчэ — вялікую граду бульбы. Сын прывёз ёй з горада «заводнага» насення, якое купіў на рынку.

Баба Ульяна была задаволеная. Хоць і размяняла ўжо апошні дзясятак жыцця, але была ўвішная і рухавая. У яе агародзе не было ніводнай травінкі, не тое што ў суседкі Параскі. Пустазелле мінае плот, а яна і ў вус не дзьме: «Вырасце бульба, чорт яе не возьме, гэта не морква ці цыбуля — бульба зелля не баіцца».

Сын прыязджаць з горада не спяшаўся, і баба Ульяна вырашыла капаць бульбу сама. Падышла ўранку да свайго выпеставанага агарода і ледзь не аслупянела. Нібы смерч прайшоў па яе градах, узадраў зямлю ўздоўж і ўпоперак.

— Параска! — гучна паклікала Ульяна суседку. — Паглядзі, што робіцца! Эх, злыдні!.. Яшчэ ўвесну казала сыну, што трэба адгарадзіцца ад лесу, а яму ўсё няма часу. Што ж я цяпер рабіць буду? А мая ж ты бульбачка!.. А ў цябе, Параска, былі гэтыя ікластыя?

— Ды не, — усміхаецца тая. — Чаго ім у мой бур'ян лезці? Ды і ў цябе ж бульба не простая, а «заводная». Вось і спакусіліся толькі на твае грады. Але, глянь, яны яшчэ сумленна рыліся: пакінулі табе корчыкаў дзесяць. Будзе што пакаштаваць. Можа, і мяне на вячэру запросіш? — Параска крыху памаўчала і супакоіла: — Ды не бядуй ты так, суседка. Сыну ўсё няма калі прыехаць, а дзікі прыйшлі і ўраз табе ўсю бульбу выкапалі...



**Галіна НІЧЫПАРОВІЧ,**
*Уздзенскі раён,*
*в. Магільна.*




Малюнак Вікенція ПУЗАНКЕВІЧА, тэма Міхася СТЭФАНЕНКІ.




Малюнак Аляксандра КАРШАКЕВІЧА, тэма Міхася СТЭФАНЕНКІ.




**Васіль РАМАШКА**

## Гусак-дзівак



Ідзе па вуліцы Гусак.
Сам важны, на ілбе – гузак.
Не ўзбоч, сярэдзінай ідзе,
Сябровак за сабой вядзе.
Імчаць машыны:
– Бі-бі-пі!
Гусак, дарогу саступі!
А той і слухаць не жадае,
«Прывал!» – і чарада сядае.
ДАІ ўшчувае з мегафона:
– Сыдзіце, птахі, мчыць калона!
– Не бойцеся! – крычыць Гусак. –
Гаспадары мы тут! Вось так.
...Рып тармазоў – і наш Гусак
Пад колы трапіў, небарак:
Памяты рэбры, крылы, ногі...

Вучыце азбуку дарогі!




Малюнак Вікенція ПУЗАНКЕВІЧА.




Малюнак Вікенція ПУЗАНКЕВІЧА.

## ЗАГАДКІ

Не пакажа ...
Ні вочак, ні ножак.
Як кранеш – балюча,
Бо увесь калючы.

*(Вожык.)*

☺ ☺ ☺

Каб гаспадыні дагадзіць,
Мушу я мышэй лавіць.
Як злаўлю – адразу ў рот.
Клічуць Мурзік,
Сам я – ...

*(Кот.)*

**Сяргей ЛАПЦЁНАК,**
*г. Мінск.*

**Павел САКОВІЧ**

# ГУМАРЫНКІ

## Слабы зрок

Перагарнуўшы старонкі дзённіка, настаўніца здзіўлена звярнулася да трэцякласніка Міхася:

– Чаму твая маці не заглядвае ў дзённік? За цэлы месяц – ніводнага роспісу!

– А ў яе вочы баляць.

– Што, яна табе так і сказала?

– Не, яна так сёння майму бацьку казала: «Не магу цябе бачыць, не магу цябе бачыць!»










Малюнак Паўла ГАРАДЦОВА.




Малюнак Паўла ГАРАДЦОВА.

## Маленькія хітруны

Міхась і Зося – брат і сястрычка. Яны добра сябруюць, вельмі любяць бацькоў, хоць іншы раз і засмучаюць іх сваімі паводзінамі. Цяжка з імі бацькам. Праўда, Міхась і Зося лічаць, што ім таксама нялёгка: туды не хадзі, гэта не рабі... Кожны крок пад кантролем. Хіба гэта жыццё?

Аднойчы пасля чарговай сур'ёзнай сямейнай размовы брат і сястра доўга шморгалі насамі, давяраючы адзін аднаму свае крыўды. І вось тут Міхась прапанаваў:

– Ведаеш, што? Давай падзелім бацькоў: ты будзеш слухацца маці, а я – бацьку. Усё ж лягчэй будзе!

## Сама вінавата

Малыя сяброўкі дзеляцца навінамі двара.

– Зінка плача, што ў інстытут не прайшла...

– А хто яе прапусціць, калі яна не той білет узяла – сама прызналася. Такая рассеяная...

## Цудадзейныя лекі

– Мая маці – балерына, – хвалілася Зося сяброўцы. – Толькі як наскачацца на рэпетыцыі, дык у яе потым галава баліць. Адзін гэты... прымадон дапамагае.

**Міхаіл МАСКАЛЬЧУК**




Здарылася гэта, як любяць казаць у тутэйшай мясцовасці, яшчэ «за польскім часам» з двума суседзямі-сябрамі — Іванам і Сцяпанам.

Пачалося з таго, што Іван прыйшоў да сябра з навіной: памёр любімы сабака графскага вартаўніка Архіпа.

— Ну, памёр і памёр. Больш не будзе гэты ваўкалак людзей пужаць. Што з гэтага? — абыякава аднёсся да навіны Сцяпан.

— А тое, што без свайго сабакі Архіп ні за што не будзе сядзець ноччу ў полі, бо забаіцца! І мы з табою можам, як сцямнее, спакойна набраць там снапоў. У гэтым годзе надта добрае жыта ў графа ўрадзіла, — растлумачыў Іван.

І вось ноччу, калі патухла апошняе святло ў вясковых хатах, дзве постаці з вяроўкамі за плячыма бясшумна рушылі ў дарогу. Калі да поля заставалася метраў сто, Сцяпан пачаў сумнявацца:

— А што, калі ўсё ж такі Архіп са стрэльбай сцеражэ жыта?

— Цьфу на цябе! Ды нікуды не пойдзе ён без свайго ваўкалака. Недзе спіць ужо даўно ў жонкі пад бокам! — не стрымаўся Іван.

Неўзабаве дайшлі да поля, на якім налічылі дванаццаць копак. Каб прапажа не кідалася ў вочы, вырашылі так: Сцяпан бярэ першую копку, а яго сябар — дзясятую. Але паколькі не было ў вёсцы хлопца дужэйшага за Сцяпана, да сваёй копкі ён дадаў яшчэ некалькі снапоў з суседняй. З гэтай ношай і рушылі хутчэй з поля.

— Давай адпачнём, — папрасіўся Іван, калі ўжо адышлі на паўсотню крокаў. — Няма моцы больш цягнуць на сабе гэты цяжар. Усё ж такі дзесяць снапоў на карку!

— У мяне дванаццаць, і нічога, не плачу, — адказаў Сцяпан. — Пайшлі далей, адпачнём пасля. А то раптам прачнецца Архіп, прыбяжыць на поле ды падстрэліць нас, як курапатак!

Нарэшце дайшлі да вёскі. Сцяпан зайшоў у сваё гумно і з палёгкай скінуў цяжкі груз з плячэй.

— Ой-ой! — нечакана заенчылі снапы.

— Што за нячыстая сіла! — Сцяпан запаліў ліхтар і тузануў вяроўку. У той жа момант са снапоў выпаў вартаўнік з прыціснутай да грудзей стрэльбай.

— Дык гэта я цябе нёс! Вось чаго мне так цяжка было! Чаму не адзываўся?

— Павер, браточак, як выпіў гарэлкі, калі памінаў свайго сабачку, дык заснуў у капе як нежывы. А калі апрытомнеў, то здалося, што анёлы нясуць мяне ў рай, дзе чакае мой калматы сябра, — пачаў апраўдвацца вартаўнік.

— Я табе дам рай і пекла! Зараз малаціць буду, як жыта! — ухапіў Сцяпан цэп.

— Міленькі мой, не забівай, нікому не скажу. А калі хочаш, то яшчэ можаш снапоў з поля ўзяць! — ледзь не заплакаў Архіп.

— А не выдасі?

— Не, не! Што ты!

— Ну, глядзі мне! Калі што, дык хутка ў мяне са сваім ваўкалакам сустрэнешся, — заверыў Сцяпан.

Так да світанку ён, не губляючы часу, змог яшчэ пару разоў абярнуцца ў поле. А вартаўнік Архіп маўчаў. І толькі пасля смерці Сцяпана расказаў пра гэту прыгоду...

*Гродзенская вобласць,*
*г. п. Вялікая Бераставіца.*




Малюнак Вікенція ПУЗАНКЕВІЧА.




Малюнак Юрыя МІХАЙЛАВА.








Малюнкі Анатоля ВАСІЛЬЕВА.

**Анатоль Васільеў**

*Нарадзіўся ў 1957 годзе. Удзельнік клуба карыкатурыстаў «Архигум» (Кіеў). Друкаваўся ў часопісах: «Компаньон», «Панорама»; газетах: «Факты», «Я – пациент», «СПИД-Инфо». Удзельнік конкурсаў у Бельгіі, Італіі, Бразіліі.*



– Дык, кажаш, стаў лідарам партыі роўных магчымасцей?!



– Шэф, аперацыя пачалася! Я кантралюю сітуацыю!

Малюнкі Анатоля ВАСІЛЕНКІ.

**Анатоль Васіленка**

*Нарадзіўся ў 1938 годзе. Больш як сорак гадоў працуе ў часопісе «Перац». Аўтар трох кніг для дзяцей. Напісаў два сцэнарыі для мультфільмаў. Удзельнік і прызёр шматлікіх міжнародных выставак карыкатуры. Заслужаны мастак Украіны з 1977 года.*







Малюнкі Анатоля АПЧЭЛА.

**Анатоль Апчэл**

*Нарадзіўся ў 1954 годзе. З 1998 года захапіўся карыкатурай. Друкаваўся ў самых прэстыжных газетах і часопісах Расіі і Украіны: «Перец», «Крокодил», «Фонтан», «Литературная газета». Адзначаны граматамі і медалямі на міжнародных конкурсах у Югаславіі, Італіі, Турцыі і Японіі.*

*«Карыкатурысты Украіны», Кіеў, 2003 г.*





*Пішыце коратка, але шмат. Сцісласць – сястра таленту, а ганарар – сястра міласэрнасці.*

Барыс Замяцін (рускі пісьменнік)



Малюнак Алега ГУЦОЛА.

**Міхась СЛІВА**



# Вымушаны развод

Гумарэска

Сымон Капялюш, як і многія пісьменнікі, браў тэмы і сюжэты для сваіх твораў з жыцця. І большасць з іх пісаў ад першай асобы. Гэта часта прыводзіла да розных непаразуменняў, чутак, зласлівых шэптаў сярод некаторых суседзяў і знаёмых.

Вось надрукаваў аднойчы Сымон у газеце сатырычнае апавяданне, дзе ад свайго імя з іроніяй расказваў, што мае трохпавярховую дачу, працуе адразу ў трох месцах і наогул грошы рыдлёўкай грабе. Пасля гэтага сёй-той з суседзяў пачаў насцярожана глядзець на пісьменніка, хтосьці нават даў сігнал у падатковую інспекцыю, а Валянціна Пятроўна, лепшая жончына сяброўка, хітра ўсміхаючыся, абурылася:

– І трэба так бессаромна дурыць людзей! Завязуць мяне на нейкую пустэчу, дзе замест дамка гнілая будка, пускаюць туман у вочы, быццам гэта іх дача! А вунь жа ў газеце напісана, што ў вас трохпавярховы дом на вялікім участку ў цудоўным месцы неба падпірае. Навошта ж ад мяне хаваць?!

Яшчэ больш непрыемнасцей меў Сымон ад сваёй жонкі. Бо надта ж часта ў сваіх творах ён расказваў пра кабет, згадваючы менавіта яе. І ўсё крытычнае ў адрас жанчын увогуле многія чытачы пачалі ўспрымаць як аповед пра ўласную жонку пісьменніка Антаніду. Некаторыя нават не саромеліся ўдакладняць у яе сякія-такія дэталі, робячы выгляд, што вераць ёй, а не яе мужу, гэтаму выдумшчыку і фантазёру. Выгляд рабілі, але ж плёткі распускалі яшчэ большыя. А іх даносілі Антанідзе іншыя «добразычліўцы».

Кожны раз жонка перажывала. Сымон жа, нягледзячы на яе пастаянныя папрокі і строгія папярэджванні пра тое, што ўсё гэта можа аднойчы закончыцца назаўсёды, працягваў выкарыстоўваць свой любімы творчы прыём.



І вось аднаго разу Антаніда сваё абяцанне стрымала: сабрала самыя каштоўныя рэчы і пайшла да бацькоў. А неўзабаве Сымон атрымаў запрашэнне ў суд на развод. Апошняй кропляй, якая прывяла да гэтага фіналу, была чарговая гумарэска Сымона Капелюша, якая пачыналася словамі: «Усе жонкі як жонкі, мая ж чулінда...» Далей чытаць Анатанідзе ўжо не было патрэбы.

*г. Рагачоў.*




**Генадзь АЎЛАСЕНКА**

## А вы што думалі?

*Душа – інтымны дужа орган,*
*Яе не трэба агаляць.*
*Вера МІХНО*

Адзін паэт ці то ў запале,
Ці, мо, крыху паддаты быў,
Ды толькі ён пры поўнай зале
Інтымны орган агаліў!

Ну, што вы ўсе зарагаталі?
Я ж ведаю, аб чым пішу!
Бо той паэт пры поўнай зале
Інтымна агаліў... душу!



**Мікола ТОНКАВІЧ**

## Без шкадавання

*Прызнаюся: было мне горка,*
*Што ты са мной і не са мной.*
*.......*
*А недзе твой не спаў мужчына,*
*І не зайздросціў я яму.*
*Алесь ЖЫГУНОЎ*

Сваё каханне маладое
Стрэў нечакана праз гады –
І затрымцела ўсё жывое,
Нібыта ўпершыню, тады...

Я ведаў, што ты маеш мужа,
Чакае дзесь цябе сям'я,
Таму расхваляваўся дужа:
Ці ты мая, ці не мая?

Аднак жа моцна прыхінуўся
Да бюста пругкага твайго...
І, можа, недзе муж прачнуўся,
Ды я не шкадаваў яго!

**Васіль ЖУКОВІЧ**

## Сэрцагрэйныя словы

*Гэта казка, ці ява, ці сон –*
*Чуць твае сэрцагрэйныя словы.*
*О, які іх салодкі палон!*
*Так і слухаў бы: «Што Вы!*
*Ну што Вы!..»*
*Мікола ШАБОВІЧ*

Як прыходзіла ў мройныя сны
Ты у вобразе краскі маёвай,
Я казаў: «О, царыца вясны!»
Ты адказвала: «Што Вы!
Ну што Вы!..»

Запрасіў цябе, юную, ў лес,
Ах, той лес разліваў пах мядовы.
Неўпрыкмет цалавацца палез –
І сказала ты: «Што Вы!
Ну што Вы!..»

Меў я самы сур'ёзны намер,
Завіталі мы ў лес не па дровы...
– Ты не бойся, даверся, павер
І правер: я – мужчына здаровы!..

Лес маўчаў, і натхняла вясна.
Я шаптаў сэрцагрэйныя словы,
Хай сабе паўтарала яна
Непаўторнае: «Што Вы!
Ну што Вы!..»

Гэта казка, ці ява, ці сон:
Крэпасць пала ад слоў адмысловых.
Ах, мяне не пакіне палон
Цёплай музыкі: «Што Вы!
Ну што Вы!..»

**Кузьма КАМЕЛЬ**

## Спачуванне

*С помоста я ее снимаю*
*И без проблем*
*на грудь бросаю.*
*Стою и слышу звон*
*стальной,*
*Приятный звон,*
*победный он...*
*Еще ответственный*
*подход,*
*Когда идти мне*
*на помост.*
*Стою я крепко на ногах,*
*Держу тебя в своих руках,*
*Вверху секунды удержу,*
*Шанс победить*
*не упущу,*
*Я чемпионом*
*быть хочу.*
*В. СОРОКОЛЕТОВ («Штанга»)*



Ні ямб не здужаў, ні харэй,
І штангу кляў у злосці.
Ці не зашмат на пуп бярэ
Той аўтар на памосце?!



Малюнак Алега КАРПОВІЧА.




Малюнак Вікенція ПУЗАНКЕВІЧА.



Малюнак Алега ГУЦОЛА.

# Школьныя жарты

Настаўнік скардзіцца на педсавеце: «Працаваць стала зусім немагчыма! Настаўнік баіцца дырэктара. Дырэктар — інспектара. Інспектар — правяраючых з міністэрства... І толькі дзеці нікога не баяцца!»

* * *

Энергія — гэта тое, што маецца ў вялікай колькасці ў кожнага дзіцяці, але адразу знікае, калі папросіш што-небудзь зрабіць.

* * *

Дзяцей цікавіць, адкуль усё бярэцца, дарослых — куды ўсё дзяваецца?

* * *

На ўроку настаўніца пытаецца ў вучня:

— Хто такія прытворшчыкі?

— Прытворшчыкі — гэта тыя людзі, якія ходзяць у школу з вясёлым настроем.

* * *

Не абурайцеся, калі дзіця пабудзіла вас крыкам у тры гадзіны ночы. Хутка вы будзеце рады, калі яно наогул у гэты час будзе дома!

* * *

Мяч яшчэ ляцеў у акно кабінета дырэктара школы, а вучні ўжо гулялі ў хованкі!

* * *

Выпускнік Віталь успамінае: «Я заўсёды па матэматыцы ўраўненні рашаў хутка, а мой сусед па парце Пятрок — правільна!..»

* * *

Настаўнік фізкультуры аніяк не можа абыграць у шахматы настаўніка працы, бо той выстругаў сабе два дадатковыя ферзі!

* * *

Чым адрозніваецца дрэнны вучань ад добрага? Дрэннаму даюць кухталёў бацькі, а добраму — вучні.

**Даслаў Канстанцін КАРНЯЛЮК,**
*г. Віцебск.*


**Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом «Звязда»**

**«Вожык» — грамадска-палітычны, літаратурна-мастацкі часопіс**

№ 9 (1500), 2013 год.

*Выдаецца з ліпеня 1941 года.*
*Часопіс «Вожык» зарэгістраваны ў Міністэрстве інфармацыі РБ. Рэгістрацыйны № 520.*

Заснавальнікі — Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь, РВУ «Выдавецкі дом «Звязда».

Галоўны рэдактар
Юлія Францаўна ЗАРЭЦКАЯ.

**Рэдакцыйная калегія:**
Анатоль АКУШЭВІЧ, Сяргей ВОЛКАЎ, Навум ГАЛЬПЯРОВІЧ, Мікола ПРГЕЛЬ, Тамара ДАНІЛЮК, Валянціна ДУБРОВА, Юлія ЗАРЭЦКАЯ, Казімір КАМЕЙША, Алег КАРПОВІЧ, Уладзімір МАТУСЕВІЧ, Міхась ПАЗНЯКОЎ, Павел САКОВІЧ, Уладзімір САЛАМАХА, Васіль ТКАЧОЎ.

**Рэдакцыя:**
Аляксандр КАРШАКЕВІЧ *(намеснік галоўнага рэдактара, мастацкі аддзел)*, Наталля КУЛЬГАВАЯ *(аддзел фельетонаў і пісьмаў)*.

*Рэдактар стылістычны* Марыя ПЛЕВІЧ.
*Камп'ютарная вёрстка*
Святлана ТАРГОНСКАЯ.

**Юрыдычны адрас: 220013, г. Мінск, вул. Б. Хмяльніцкага, 10 а.**

**Адрас рэдакцыі:**
**220005, г. Мінск,**
**праспект Незалежнасці, 39.**
**E-mail: a-vojik@yandex.ru**

***Тэлефоны:***
***галоўнага рэдактара — 288-24-62, намесніка галоўнага рэдактара, аддзела літаратуры, мастацкага аддзела — 284-84-52, бухгалтэрыі — 287-18-81, факс — 284-84-61.***

Рукапісы не рэцэнзуюцца і не вяртаюцца. Перадрукоўваючы матэрыял, трэба абавязкова спасылацца на «Вожык». Разглядаюцца рукапісы, надрукаваныя на машынцы або набраныя на камп'ютары. Аўтары публікацый нясуць адказнасць за падбор і дакладнасць фактаў. Рэдакцыя можа друкаваць матэрыялы, не падзяляючы пазіцыю і думку аўтараў.

Падпісана да друку 12.09.2013
Фармат 60х84 1/8. Афсетны друк.
Папера афсетная. Ум. друк. арк. 2,79.
Ул.-выд. арк. 3,48.Тыраж 1767 экз.
Заказ 2907.

Кошт нумара ў розніцу 16 800 руб.

Рэспубліканскае ўнітарнае прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку».
220013, Мінск,
праспект Незалежнасці, 79.
ЛП № 02330/0494179 ад 3.04.2009.